© PDF: Kamunikat.org 2022
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2022

З дарожнага дзённіка (1)

# Першыя ўражанні

Вось і чырвона-зялёныя пагранічныя слупы СССР. За намі дні турботнага, прадвыезнага хвалявання, прад намі — дзесяць незнаёмых дзён у Совецкай Беларусі.

Брэст. Цягнік у Мінск адыходзіць праз некалькі гадзін. З гэтага выпадку, як кожны цікаўны падарожнік, напраўляемся ў горад.

Першае, што кідаецца нам у вочы, гэта зеляніна. Яна пануе ва ўсім горадзе. Таксама звяртаюць на сябе ўвагу назвы чыста ўтрыманых вуліц, пераважна літаратурнага паходжання. Відаць жыхары Брэста вельмі паважаюць літаратуру, калі сваім вуліцам далі толькі імяў айчынных і замежных паэтаў і пісьменнікаў. Гэтага нельга сказаць аб адносінах пісьменнікаў да старадаўняга беларускага горада, таму, што на Брэсцкім парнасе, пакуль што пасяліўся толькі Мікола Засім.

Часу заставалася няшмнога, таму абмежаваліся мы да павярхоўнага, вонкавага агляду горада.

* * *

У Мінск прыехалі мы ноччу. З ходу папалі пад уладанне клапатлівых таварышаў з Беларускага таварыства — культурнай сувязі з заграніцай. Па дарозе ў гасцініцу „Беларусь” адбылі начное знаёмства з горадам.

Велічна выглядае сталіца Беларусі ноччу. Шматпавярховыя будынкі агнямі неонавых лямпаў урэзаюцца ў нябесную цемру. У асабліва прыгожы настрой уводзяць лямпы дзённага святла, якія апошнім часам пачалі ўводзіцца ў Мінску.

Больш дэталёвае знаёмства з сталіцай адбылося на другі дзень.

### Па вуліцах Мінска

Прывакзальная плошча. З гэтага месца адкрываецца панарама горада. Злева і справа зялёны масіў. Гэта пасадка пасляваенная. Ды і ўсё тут пасляваеннае — дамы, вакзал і самая плошча, якая павялічылася ў параўнанні з даваенным станам у 3 разы. Са словам „пасляваенны” сустракаемся амаль на кожным кроку. Нічога дзіўнага. З старога Мінска засталася самая старая частка Няміга. Горад больш чым у 80 прац. быў разбуран. Падарвалі яго гітлераўскія варвары.

Новы Мінск датрымоўвае кроку самым буйным гарадам Совецкага Саюза.

Вось вышлі мы на праспект імя Сталіна — галоўную магістраль горала. Раней гэта вуліца была шырынёй у 16 м. цяпер мае 48 м шырыні і 10 км. даўжыні.


Дом-музей 1 га з'езду РСДРП.

Праспект задуман як адзіны ансамбль — з пабудовамі, вуліцамі, плошчамі.

Шмат гаралоў давялося пабачыць мне ў Совецкім Саюзе, і на маю думку праспект Сталіна ў Мінску, гэта адна з самых прыгажэйшых вуліц Совецкага Саюза. А мо' гэта ад таго, што я не чакаў сустрэць тут такую вуліцу? Ды не, ні думаю.

Архітэктары і будаўнікі Мінска ўлажылі ў горад таленавітую думку і многа гарачага сэрца, цяплыню якога выдыхаюць кветкі шматгадовых ліп, прывезеных сюды з гадавальнікаў, цяплыня якога гнездзіцца ў кожнай цагліне адбудаванай беларускай сталіцы. І таму непрыемна рэжа вока астанак даваеннага будаўніцтва — будынак опернага тэатра, які быццам вялізны жалеза-бетонны бункер узвышаецца над горадам. Ну, гэта справа густу.


Політэхнічны інстытут.

Затое з падножак тэатра адкрываецца цудоўны ландшафт. Лёгкія сілуэты будынкаў, усеўшыхся на ўзгорках, у якія Мінск багаты, плаваюць на моры зеляніны.

Трудна проста ўявіць, што ўсё гэта зялёнае мора было акупантамі знішчана.

Аднак вернемся на праспект. Перад намі Цэнтральная плошча. Тут адбываюцца дэманстрацыі працоўных. Тут будзе пабудаван новы будынак Дома Урала. Побач сквер, які адкрывае помнік Янку Купалу, на якім залацяцца словы вялікага беларускага песняра:

*«З Масквы, з Крэмля*
*хадою ўдумнай,*
*Усенароднай, чалавечай,*
*Праз поле, поплавы, буруны*
*Ідзе, таварышы, комуна*
*На свеце шчасце ўвекавечыць!*

Характэрнай рысай праспекта з'яўляецца тое, што акрамя ўстаноў, на ім пабудаваны жылыя дамы. Зеляніна і шырокая вуліца ствараюць добрыя жыллёвыя ўмовы. Вось такіх дамоў асабліва многа ля Круглай плошчы. Гэта шматпавярховыя прыгожыя будынкі. Тут да вайны стаялі аднапавярховыя драўляныя домікі. Адзін з іх рэканструяваны і стаіць побач плошчы. Гэта невялічкі, памалёваны зялёнай фарбай дом-музей, у якім адбываўся І з'езд РСДРП.

Аб размаху жыллёвага будаўніцтва ў Мінску сведчаць такія лічбы. Толькі за гады пятай пяцігодкі выдаткавана на гэтае будаўніцтва 930 мільёнаў рублёў. Мінчане атрымалі поўмільёна квадратных метраў жылой плошчы. Ясна, што


Палац культуры прафсаюзаў на Цэнтральнай плошчы.

Мінск патрабуе яшчэ многа гэтых квадратных метраў. Трэба сабе ўявіць, што пасля вайны мінчане жылі ў палатках. Цяпер у Мінску на аднаго чалавека прыпадае сем квадратных метраў жылое плошчы.

Як успамін аб гераічнай барацьбе беларускага народа з акупантам, узвышаецца ў цэнтры Круглай плошчы манумент загінуўшым воінам Совецкай Арміі і партызанам. Пад барэльефам «Перамога», высечаны ў граніце меч, які сімвалізуе словы Неўскага «Хто да нас прыйдзе з мячом, ад мяча загіне»

Далей па праспекту будуецца найбуйнейшы ў Совецкім Саюзе паліграфічны камбінат, размешчаны Політэхнічны інстытут, Акадэмія навук БССР, Батанічны сад, Парк культуры і адпачынку — велізарнейшы масіў, да вайны некрануты сасновы бор.


... ў цэнтры Круглай плошчы манумент...

Побач любіміца дзяцей — дзіцячая чыгунка, на якой 350 юных грамадзян Мінска прыемна і карысна праводзяць вольны час, выступаючы ў якасці начальнікаў станцыі, дыспетчараў, праваднікоў, качагараў, машыністаў. Колькі задавальнення атрымоўваюць яны, вязучы на сваім цягніку дарослых, якія гэтым разам змушаны падпарадкоўвацца загадам дзяцей.

ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ


Прывакзальная плошча.


Помнік народнаму паэту Беларусі Янку Купалу.



© PDF: Kamunikat.org 2022
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2022

